19 ин-2
2060

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік



Дзьвінскі Беларускі Народны Тэатр пры Дзьвінскім Аддзеле Т-ва „Беларускага Тэатру ў Латвіі“ выяжджае на пастаноўку ў вёску Свэнты Ілукштанскага павету, 13 верасьня 1931 году, з п‘есамі: „Мікітаў Лапаць“ і „Пасланец“. У аўтабусе сядзіць хор, перад аўтабусам стаяць зьлева ўправа: У. М. Ціхаміраў, А. Абалевіч, М. П. Касьпяровіч, К. А. Аляксандровіч, С. Райко, С. Карнавухава-Саўкант, С. П. Сахараў, В. Бялінская, Ст. Мельнікаў, П. Макаруха, С. Д. Маціеўскі і Я. Кукель.

Г. 8

№ 2 (19) Рыга, люты 1933 году № 2 (19)

## Зьмест № 2 (19):



---

## 4-ты Надзвычайны Агульны Сход Таварыства Беларускіх вучыцялёу у Латвіі.

5-га лютага адбыўся 4-ты ў гэтым годзе Надзвычайны Агульны Сход Т-ва Беларускіх вучыцялёў, на якім прысутнічала 26 сяброў Т-ва, з ліку стала пражываючых у Рызе. Сход разглядзіў па пунктах праэкт новага „Закону аб народнай асьвеце“ і заслухаў паясьненьня аднаго з сяброў Т-ва, у справе няўзносу ім належных з яго адлічэньняў ад ягонае пэнсыі ў Пэдагогічны Фонд кіруючай ім установы.

Разгляд праэкту „Закону аб народнай асьвеце“ заняў каля 2-х гадзін і выклікаў шырокі абмен думак паміж прысутнымі сябрамі. Дадаткаў і ўваг да праэкту ўхвалена ад Т-ва беларускіх вучыцялёў ва Ўселатвійскі Вучыцельскі Хаўрус і ў Соймавую Асьветную Камісію не падаваць, бо праэкт у агульных сваіх рысах і па ўсяму свайму духу зусім забясьпечвае асьвету працоўных масаў і меньшасьцёвага жыхарства.

У справе сябры Т-ва, які не ўносіў усіх належных з яго складак і прозьвішча якога мы ўсё яшчэ не называем, былі заслуханы ягоныя тлумачэньні, якія аднак усіх прысутных не задаволілі і яму было запрапанавана даць у працягу тыдню паясьненьні на пісьме. Высьвятленьне гэтае справы, і самая манера трыманьня памянёнага сябры Т-ва пакінула на ўсіх прысутных самае адмоўнае ўражаньне. Разгляд пісьмовых паясьненьняў даручаны Цэнтральнаму Праўленьню, якое аб выніках мае паведаміць наступны Агульны Сход сяброў Т-ва.

**Сябар Т-ва**

У Люцыне ў цэнтры гораду, на высокім прыгожым мейсцы,

**прадаецца двухпавярховы будынак**

**і вялікі кавалак зямлі з старым садам,**

які выходзе на 4 вуліцы і займае плошчу ў 6½ гэктараў. Магчыма адкупіць ня толькі ўсю маёмасьць адразу, але і права на паасобныя ідэальныя часткі яе ад паасобных спадкаберцаў. Аб варунках пакупцы і стане маёмасьці больш подрабязныя весткі можна атрымаць у Рэдакцыі штомесячніка „Беларуская Школа ў Латвіі“: Рыга, Ільінская вул., 20, кв. 25, а таксама па тэлефону № 2-9-9-2-2. Паштовы адрас: Rīgā, Elija ielā, 20,dz. 25, „Bielaruskaja Škola u Latviji“. Упаўнаважан. маёмасьці ў Люцыне.

19ин
2060

# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

папулярна-навуковы, пэдагогічны і літаратурна-грамадзкі штомесячнік

**Падпісная плата**
ў Латвіі, Літве, Эсьціі і Зах. Беларусі: за год—5 лат., за паўгода—3 л. 50 с., асобны нумар — 70 сант. У іншых краінах: за год—2 ам. дал. Падпісную плату пасылаць на бягучы рахунак часопіса: „Bielaruskaja Škola u Latviji", Rīgā, pastā, tek. rēķins №10909.

**Адрас Рэдакцыі і Канторы:**
Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25 „Bielaruskaja Škola u Latviji".
**Тэлефон 2-9-9-2-2.**
**Паштовы адрас:**
Latvijā, Rīgā, pastkaste № 1362.
Рэдактар К. Езавітаў і Рэдакцыйная Калегія па справах часопісу прыймаюць па аўторках ад 15 да 16 гадзін.

Надсылаемыя рукапісы павінны быць чытэльна напісаны, або надрук. на піш. машынцы (**пісаць і друкаваць толькі на адным баку**).
Рукапісы назад не зьвяртаюцца
Аплачваць аўтарскія ганарары Рэдакцыя пакуль што ня мае магчымасьці.

№ 2 (19). | Рыга, люты 1933 году. | Год VIII.

## Да нашых чытачоў і прыхільнікаў.

У папярэднім нумару Рэдакцыйная Калегія ўжо зьвярталася да чытачоў і прыхільнікаў нашага штомесячніка з гарачым заклікам і просьбай аб падтрыманьні „Беларускае Школы ў Латвіі" праз зьбіраньне падпішчыкаў і абвестак для часопіса. Зара' мы яшчэ раз паўторываемо гэтую просьбу і зноў падкрэсьліваемо, што без агульнае грамадзкае падтрымкі наш штомесячнік выходзіць ня зможа, бо выданьне патрабуе немалых сродкаў. Ня гледзячы на тое, што ўсе мы — і рэдактар, і супрацоўнікі, і карэктар — працуемо з усім безграшова, выдаткі на набор, друк, паперу, клішэ, фальцоўку, брашуроўку і разсылку настолькі вялікія, што за мінулы год мы маемо 350 латаў дэфіцыту. Толькі моцная вера ў тое, што грамадзтва наша, нарэшці, усьвядоміць сабе ўсю важнасьць і неабходнасьць існаваньня ў Латвіі беларускага часопісу, ды хутка прыдзе нам на дапамогу, — надае нам сілы далей вясьці штомесячнік іісьці на далейшыя цяжкія ахвяры.

Але не аб аднэй толькі матар'яльнай падтрымцы ідзе справа: мы хацелі-б, каб усе нашы чытачы былі-б актыўнымі супрацаўнікамі штомесячніка і падтрымоўвалі-б з ім больш шчыльны і сталы кантакт. Дбаемо мы і аб тым, каб тыя схаваныя зара' сілы нашае меньшасьці ў Латвіі, што могуць з часам выявіць свае здольнасьці ў літаратуры і публіцыстыцы, — мелі-б зара' шлях і магчымасьці выяўленьня, а таму прапануемо нашым настаўнікам, курсантам, старэйшым вучням гімназій, а таксама і шырокім колам нашае працоўнае моладзі спрабаваць свае літарацкія сілы праз надсылку ў Рэдакцыю вершаў, апавяданьняў і іншых літаратурных матар'ялаў, а таксама і карэспандэнцый з мейсц.

З шчырай падзякай вітаемо мы тых грамадзян, пэдагогічныя колектывы і паасобныя Таварыствы, якія ўжо адазваліся на наш заклік і ня толькі зьліквідавалі сваю запазычанасьць за мінулы час, але склалі ўжо падпіску на бягучы 1933 год — і зара' робяць розныя прадпрыемствы, як вечарыны і спэктаклі, чысты прыбытак з якіх абяртаюць на выпіску нашага штомесячніка для незаможных сваіх сяброў і безпрацоўных беларускіх сямеяк.

**Рэдакцыйная Калегія.**

Библиотека АН БССР
Нацыянальная бібліятэка Беларусі

**Зьмітра Даўгяла**
Член-супрацоўнік Інстытуту Беларускае Культуры.

# Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі.

## I. Што такое Літоўская Мэтрыка.

Літоўскай Мэтрыкай называўся архіў даўнейшай канцэлярыі вялікага князя Беларускага і Літоўскага. У ім захоўваліся акты або кнігі, у якіх знаходзіліся ўсе граматы і дакуманты, напісаныя па ўстаноўленай у дзяржаўнай канцэлярыі форме.

Памянёны архіў дзяліўся на Мэтрыку вялікую, якая знаходзілася пад назіраньнем канцлера, і Мэтрыку меньшую — пад назіраньнем падканцлера. Абодвы гэтыя саноўнікі вызначалі, безпасрэдна ад сябе залежных, загадчыкаў архіву, пад назвай „мэтрыкантаў“.

Мэтрыка Літоўская мае для нас надзвычайна вялікае значаньне і вартасьць. Вось што кажа аб гэтай Літоўскай Мэтрыцы праф. Доўнар-Запольскі: „Перш за ўсё справа ў тым, што мы ня можам ня ведаць свайго мінулага, што мы павінны вывучаць яго. Мы — народ малады. Рэвалюцыя зьвярнула нам правы на самавызначэньне, што зьяўляецца адным з найвялікшых рэвалюцыйных здабыцьцяў, якімі мае магчымасьць карыстацца былы прыгнечаны беларускі народ. Але мы павінны гэтае права ўзмацніць.

Пашыраючы вывучэньне гісторыі Беларусі, мы яшчэ больш, яшчэ глыбей высьветлім для сябе гэтае сваё права на самавызначэньне. У нашых руках будзе больш аргумэнтаў, каб даць адказ і нашым ворагам і няпрыхільнікам, і адхіліць іхнія напады.

Літоўская Мэтрыка — найбагацейшая крыніца гістарычных ведаў аб мінулым Беларусі. Крыніца гэтая ўваскрашае перад намі багатую культуру старой Беларусі, яе прававыя падставы, яе соцыяльную і экономічную структуру.

Тут гісторыя беларускага сялянства, тут гісторыя барацьбы мяшчан з шляхтай, тут гісторыя нашай старой констытуцыі, тут змаганьне беларускага народу за сваю свабоду і за сваю культуру.

Па сваей структуры Літоўская Мэтрыка зьяўляецца надзвычайным помнікам, асаблівым, калі не адзіным, у гістарычным мінулым усей Эўропы.

У беларускай дзяржаве юрыдычная думка была высока разьвіта. Мова беларускіх юрыдычных актаў — дакладна азначаная і добра характэрызуе кожнае юрыдычнае пытаньне. Гэткай якасьцю мовы тлумачыцца і сьцісласьць выразаў актавага матар'ялу мэтрыкі.

Усё гэта — такія якасьці гісторыка-юрыдычнага матар'ялу, якія робюць яго з усіх бакоў матар'ялам выключным“. („Сав. Бел.“ 1925, № 292).

Гэтая адозва павінна быць прынята кожным з дасьледчыкаў, хто працаваў у Архіве Літоўскае Мэтрыкі.

## II. Гісторыя Літоўскае Мэтрыкі.

Гісторыя Літоўскае Мэтрыкі пачынаецца з канца XV сталецьця, з тых часоў, як дзякі пры вялікім князю Казімеры Жыгімонтавічы пачалі вясьці запісы данін князёвых і розных яго грамат. Аднак Архіў Літоўскае Мэтрыкі быў у XV веку толькі ў пачатковай стадыі. Ад старых часоў там захавалася ня дужа многа

актаў, напрыклад: прысягі Карыбута (Зьмітро) Альгэрдавіча, Сьвідрыгайлы (Баляслава) Альгэрдавіча і інш., аб якіх ёсьць успаміны ў Мэтрыцы.

Есьць паказаньне аб тым, што ўжо ў пачатку XVI сталецьця, калі ў адміністрацыйным жыцьці Беларусі пачалі існаваць ваяводзтвы (якія зьмянілі намесьніцтвы) — Полацкае, Віцебскае, Смаленскае, — усе дакуманты і паперы Архіву Літоўскае Мэтрыкі захоўваліся ў некалькіх мяшкох. На кожнае ваяводзтва быў особны мяшок, у якім дакуманты былі зложаны па літарах.

Такі надзвычайны спосаб архіўнае аховы (мяшкі замест скрыняў ці шафаў) сьведчыць аб тым прымітыўным стане, у якім знаходзіўся архіў Літоўскае Мэтрыкі. Аднак, той факт, што гэты архіў захоўваўся ў Троцкім замку, пабудаваным на востраве прыгожага возера Гальвэ, у 15 кілём. ад Вільні, — сьведчыць аб прыхільных адносінах ураду да гэтага архіву. Троцкі замак быў у гэты час мацнейшы за Віленскі і іншыя.

З пачатку XVI сталецьця канцэлярыя вялікага князя Беларуска-Літоўскага пашыраецца, маюцца веды ўжо аб некалькіх дзяках, з якіх адзін пры пераездах вялікага князя, знаходзіцца пры яго асобе для вядзеньня рэестраў данін і пісаньня ўселякіх грамат, а другія ў той самы час, застаюцца ў Вільні, куды ў 1511 годзе быў пераведзены архіў Мэтрыкі Літоўскае з Трок.

Наагул, у XVI сталецьці канчаткова склалася арганізацыя Літоўскае Мэтрыкі. Вялі яе прысяглыя дзякі. Безпасрэдна Мэтрыка залежала ад канцлера вялікага князя Літоўска-Беларускага.

Архіў Літоўскае Мэтрыкі цяпер пачаў складацца арганізавана. У другой палове XVI ст. дзейнасьць і значнасьць архіву пашырыліся. Калі ў 1558 годзе зрабіўся канцлерам вялікага князя Беларуска-Літоўскага швагер вялікага князя Жыгімонта II, вядомы Мікола Іванаў Радзівіл, то 2 траўня 1558 году ён зрабіў пропозыцыю: „абы ўсе пожалованьні і даніны князскія на адно месца пэўнага замкненьня зношаны і да кніг упісованы былі“.

Відавочна, што новы канцлер хацеў, каб у Мэтрыку Літоўскую былі запісаны ўсе даніны, якія калі-б то ні былі зацьверджаны князямі, каралямі. Для захаваньня такіх дакумантаў і для „выкладу слоў пісьма“, — яны павінны былі быць зьнесены, сабраны ў адно месца і там захоўвацца пад замком.

Архіў Літоўскае Мэтрыкі павінен быў ад гэтага часу вельмі пашырацца.

Да 1569 г., калі Кіеў, Валынь і Падоль былі далучаны да Кароны, архіў Літоўскае Мэтрыкі быў так добра арганізаваны, што з агульнага складу былі лёгка вылучаны кнігі і дакуманты вызначаных ваяводзтваў і перададзены ў Карону.

Да канца XVI сталецьця вонкавы стан актавых кніг Літоўскае Мэтрыкі быў кепскі. Ад частага ўжываньня, а магчыма, і ад іншых прычын (як напр.: ад непрыстасаванага вільготнага памешканьня) кнігі пачалі псавацца і часткай спарахнелі. І вось, па загаду канцлера вялікага князя Літоўскага Льва Сапегі, з 1594 году дзякі пачалі перапісваць гэтыя кнігі. Некаторыя з прозьвішч гэтых перапісчыкаў нам вядомы: Вышчынскі, Гэскаўскі, Каралеўскі, Мархач, Пашкевіч, Радзецкі, Розэн, Яцыніч. Праца вялася 14 год (1594—1607). Перапісаныя кнігі дапаўняліся рэестрамі (зьместам) і

рабілі на іх вокладкі; затым, у працягу 14 год (1607—1621) перапісаныя кнігі ўзгоднены з аўтэнтыкам. Пасьля гэтага старыя паасобнікі кніг былі складзены не закаваньне ў Віленскім скарбе, а перапісаныя кнігі пашлі на штодзённае карыстаньне.

Да 1636 году архіў Літоўскае Мэтрыкі знаходзіўся ў Віленскім замку. У тым жа годзе, 21 красавіка, на хаваньне актаў Мэтрыкі (вялікай) вялікага князя Беларуска-Літоўскага была ўзята, з дазваленьня Уладыслава IV, прыватная камяніца віленскага грамадзяніна Яна Ключаты ў Віленскім рынку, на Рыбным канцы, каля царквы Ўваскрасенскай. Гэтая камяніца знаходзіцца ў цэнтры Вільні, каля Шкляной вуліцы. Тут Мэтрыка Літоўская знаходзілася яшчэ і ў 1700 годзе. Для зьмяшчэньня-ж канцэлярыі канцлера і Мэтрыкі Літоўскай (меньшай) 21 ліпеня 1636 году быў узяты другі прыватны мураваны дом па Шкляной вуліцы, — немца Лонга.

Казачы рух 1548 году, швэдзкі наход і, нарэшце, заваяваньне Вільні (1655—1661 г.) Масквой адбіліся на страце многіх кніг Мэтрыкі Літоўскай, але ўсё-ж яна ня зьнішчылася і існавала.

У XVII сталецьці Літоўская Мэтрыка знаходзілася ў Вільні. Есьць весткі, што яна была зьмешчана на ахову ў Віленскім Казімераўскім касьцёле да самага часу далучэньня Літвы і Беларусі да Расеі ў 1794 годзе.

21 лістапада 1794 году вышаў указ сэнату аб перавязеньні Мэтрыкі Літоўскай у Пецярбург. У студзені 1795 году яна ўжо была зьмешчана ў архіве сэнату.

З 1803 да 1836 году цягнулася ўпарадкаваньне Мэтрыкі. Галоўнае кіраўніцтва ёю належала да Міністэрства Юстыцыі. З гэтага часу пачалося навуковае карыстаньне кнігамі Мэтрыкі. Але доступ да іх быў вельмі абмяжаваны. Толькі з перавозам Мэтрыкі ў 1889 годзе ў Маскву, дзе быў да гэтага часу пабудаваны архіў Міністэрства Юстыцыі на Дзявочым Полі, Мэтрыка была адчынена для шырокага карыстаньня навуковых дасьледчыкаў. Там было добрае памешканьне, былі створаны і добрыя ўмовы для навуковае працы.

(Працяг будзе). **Зьм. Даўгяла.**

## Да усіх беларускіх нацыянальна-адраджэнчых дзеячоў і працаўнікоў беларускае літаратуры, школы і тэатру.

Беларускае Навукова - Краязнаўчае Т - ва ў Латвіі ўхваліла скласьці і выдрукаваць зборнік біографічных данных аб усіх беларускіх грамадзкіх дзеячох, браўшых і зара' прыймаючых удзел у беларускай адраджэнчай працы. Зборнік выйдзе ў сьвет пад назовам: **„Біографіі і аўтобіографіі дзеячоў беларускага адраджэньня“.**

У зьвязку з гэтым Праўленьне Т-ва зьвяртаецца да ўсіх беларускіх поэтаў, грамадзкіх дзеячоў, вучыцялёў, артыстаў і ўсіх іншых грамадзян, актыўна працаваўшых і працуючых у беларускім адраджэнчым руху, з просьбай як мага хутчэй надаслаць у канцалярыю Т-ва: 1) падрабязныя с в а е аўтобіографіі і фатаграфічныя карткі; 2) біографіі і фатаграфіі тых беларускіх дзеячоў, што самі, па тых ці іншых прычынах, прыслаць аб сабе вестак ня маюць магчымасьці. Усе матар'ялы трэба накіроўваць на адрас: Latvijā, Rīgā, Elija ielā 20, dz. 25. Kanstantynu Jezavitavu.

**Праўленьне Навукова-Краязнаўчага Т-ва.**

## 37 год вучыцельскае працы М. І. Іванова.

Міхал Іванавіч Іваноў радзіўся 1 верасьня 1874 году ў Полаччыне і зара' ўжо заканчвае шосты дзясятак гадоў свайго жыцьця. Ня гледзячы на багатую лічбу гадоў, ён да гэтага часу поўны энэргіі, і пэўне-ж праз пару год мы мелі-б прыемнасьць адсьвяткаваць 40-я ўгодкі яго пэдагогічнае працы, калі-б увосені мінулага 1932 году, у зьвязку з ліквідацыяй беларускае школы ў Люцыне, ён ня быў бы звольнены на пэнсыю.



М. І. Іваноў.

Міхал Іванавіч скончыў у 1895 годзе Полацкую вучыцельскую сэмінарыю і з 1 жніўня таго-ж году быў прызначаны ў Вёртулаўскую школу Люцынскага павету. З таго часу ён ужо не растаецца з Люцыншчынай.

Адпрацаваўшы 5 год у Вёртулаўскай школе, ён на 7 год (з 1900 па 1907 год) пераходзе ў Стара-Слабодзкую школу, затым 8 год працуе ў Піцярэўскай школе, з 1915 па 1917 год працуе ў Пасінскай школе, на 2 гады зноў вяртаецца ў Стара-Слабодзкую школу і, нарэшце, з 1 студзеня 1919 году пераходзе на працу ў Люцынскае гарадзкое вучылішча.

У 1921 годзе, калі да Люцына даходзе арганізацыйная праца беларускае нацыянальнае меньшасьці ў Латвіі, Міхал Іванавіч горача адгукваецца на заклік беларусаў з Рыгі і Дзьвінску і, разам з С. П. Сахаравым, Р. І. Жданко і іншымі, закладае ў Люцыне аддзел Т-ва „Бацькаўшчына“, а затым пераносіць сваю працу і на Люцынскі павет. Адчыненьне аддзелу Т-ва „Бацькаўшчына“ у Люцыншчыне, а затым і закладзіны шэрагу беларускіх аснаўных школ у Люцынскім павеце зьяўляюцца ў значнай сваей меры заслугаю Міхала Іванавіча і вынікам ягонае энэргійнае працы.

У 1922 годзе ў Люцыне арганізавана была мястовая беларуская аснаўная школа, на працу ў якую і перашоў Міхал Іванавіч, пачынаючы з 1 лютага 1922 году. З таго часу ён працаваў у гэтай школе аж да восені 1932 году, калі быў змушаны выйсьці ў адстаўку. Прыняў Міхал Іванавіч гарачы ўдзел і ў арганізацыі Люцынскае беларускае гімназіі, дзе затым працаваў у якасьці вучыцеля сьпеваў і арганізаваў дужа добры беларускі гімназіяльны хор, з якім выступаў ў Люцыне і выяжджаў ў беларускія вёскі.

Жадаючы Міхалу Іванавічу доўгіх год і добрага здароўя, мы заклікаемо яго ня спыняць беларускае грамадзкае працы і ўзяцца зара' за стварэньне беларускага грамадзкага хору пры Т-ве „Беларуская Хата“ ў Люцыну!

**К. Езавітаў.**

## 25 год вучыцельскае працы Я. Ф. Кастылюка.



Я. Ф. Кастылюк.

Якуб Фёдаравіч Кастылюк радзіўся 21 кастрычніка 1884 году ў Горадзеншчыне ў Кобрынскім павеце. У 1904 годзе ён скончыў Сьвіслачскую вучыцельскую сэмінарыю і быў прызначаны вучыцялем у Казычанскую пачатковую школу ў Горадзеншчыне. Дзеля працягу сваей асьветы ў 1906 годзе, Якуб Фёдаравіч паступае ў Віленскі Вучыцельскі Інстытут, які з посьпехам і канчае ў 1909 годзе. У тым-жа годзе ён прызначаецца вучыцялем у 1-ае Дзьвінскае мястовае 6-ці клясовае гарадзкое вучылішча. Тут ён працуе да 1915 году, калі мабілізуецца ў расейскую армію.

Пасьля скапчэньня вайны і дэмабілізацыі, Якуб Фёдаравіч зноў вяртаецца ў Дзьвінск і 1 сакавіка 1918 году прызначаецца вучыцялем і інспэктарам Дзьвінскай мястовай расейскай гімназіі.

У 1921-ым годзе, калі ў Дзьвінску распачалася арганізацыйная праца сярод беларускае нацыянальнае меньшасьці, Якуб Фёдаравіч адзін з першых падтрымаў арганізацыйныя высілкі гр. К. Б. Езавітава і прыняў чынны ўдзел у закладзінах першага беларускага культурна-асьветнага Т-ва „Бацькаўшчына“ у Латгаліі.

У 1922 годзе ён ня меньш энэргійна дапамагае гр. гр. К. Езавітаву і Яну Краскоўскаму ў арганізацыйнай працы па закладзінах у Дзьвінску Беларускае Дзяржаўнае гімназіі.

З 1922 і па 1926 год Якуб Федаравіч працуе, як вучыцель, у Дзьвінскай Дзяржаўнай Беларускай гімназіі, а таксама чытае некаторы час, у 1922—23 навуч. годзе лекцыі на беларускіх вучыцельскіх курсах. У 1926 годзе ён пераходзе вучыцялем у Дзьвінскую беларускую пачатковую школу, а 1. VII. 1928 году Радаю Беларускага Аддзелу абіраецца на пасаду інспэктара беларускіх пачатковых школ, якую і займае да 1-га верасьня 1930 году.

З гэтага часу і па сёняшні дзень Якуб Фёдаравіч працуе, як вучыцель і кіраўнік, у Рыскай беларускай дадатковай школе на Чырвонай Дзьвіне. Школа гэтая, за час кіраваньня Якуба Фёдаравіча, значна разьвілася і зараз налічвае больш 300 вучняў. Адначасна з працай у школе, прыймае Якуб Фёдаравіч дзейны ўдзел і ў грамадзкай беларускай працы, зьяўляючыся сябром Цэнтральнага Праўленьня беларускага культурна-асьветнага Таварыства „Беларуская Хата“.

Жадаемо юбіляру далейшае моцы і ўдачы ў ягонай пэдагогічнай і грамадзкай працы!

С. Сахараў.

## 25 год вучыцельскае працы Г. С. Плыгаўкі.



Г. С. Плыгаўка.

Грыгор Сямёнавіч Плыгаўка радзіўся 27 лістапада 1886 году на Віленшчыне на хутары Пятроўка Поркліскай валасьці Вілейскага павету. Па сканчэньні пачатковай школы ён паступіў у Маладзечанскую вучыцельскую сэмінарыю, якую скончыў у 1906 годзе, і з восені таго-ж году пачаў працаваць вучыцялем, спачатку ў Асінаградскай, а затым у Норыкскай пачатковай школе на Віленшчыне. Адпрацаваўшы 4 гады вучыцялем, гр. Г. Плыгаўка ў жніўню месяцы 1910 году паступіў у Віцебскі Вучыцельскі Інстытут, які і скончыў у 1913 годзе. 16 жніўня 1913 году Грыгор Сямёнавіч прызначаецца вучыцялем Крэйцбургскага вышэйшага пачатковага вучылішча. У часе вайны яго мабілізуюць і пасылаюць у дзеючую расейскую армію, скуль ён трапляе ў нямецкі палон.

У 1919 годзе Грыгор Сямёнавіч зьвяртаецца з нямецкага палону і прызначаецца вучыцялем расейскае мовы ў Якабштадскую латыскую гімназію, дзе і працуе да канца 1921 году.

У 1921—22 навучальным годзе беларускае культурна-асьветнае Т-ва „Бацькаўшчына“ распачынае ў г. Люцыне арганізацыю беларускае аснаўное школы. Гр. С. Плыгаўка, згодна просьбе, назначаецца арганізатарам і кіраўнікам гэтае беларускае школы з 1 студзеня 1922 году і такім чынам уваходзе ў беларускую нацыянальна-асьветную працу.

У Люцынскай беларускай школе Грыгор Сямёнавіч працуе да 1925 году, адначасна прыймаючы ўдзел у арганізацыі Люцынскае беларускае гімназіі. З 1 лютага 1925 году ён пападае на працу ў Беларускі Аддзел, спачатку як дзелавод, а потым як часовы кіраўнік (з 1. II. 1925 па 18. II. 1927 г.).

З 18 лютага 1927 году і да гэтага часу Грыгор Сямёнавіч працуе, як кіраўнік і як вучыцель, у II Рыскай беларускай школе, а таксама выкладае нямецкую мову ў дадатковай школе. Адначасна ён зьяўляецца старшынёй Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі.

**С. Сахараў.**

**Выйшаў новы зборнік п'ес В. В. ГАДАЛІНА «СПОЛОХИ»**

П'есы быліннага, гістарычнага, бытавога і казачнага характару. Да іх далучаны вершы, байкі, гумарэскі і мэлё-дэклямацыі для школьных і хатніх пастановак. Усё гэта на расейскай мове. Зборнік каштуе 6 лат., а для школ — 4 латы 50 сант. Выпісваць па адрасу: Latvijā, Rīgā, Dzirnavu ielā, 34-a, **„Книжная лавка писателей“.**

# Да гісторыі зьбіраньня і гарманізацыі беларускай народнай песьні.

За апошнія дзесяць год беларуская песьня ў розных краінах, у тым ліку і ў нас у Латвіі, усё больш заваёвывае да сябе ўвагу грамадзтва. Беларускія хоры карыстаюцца нязьменным посьпехам, беларускіх салістаў мы чуемо ня толькі на канцэртах, але дзе-нядзе ўжо і па радыё і праз грамафонную пласьцінку. Наша беларуская моладзь і настаўніцтва ўсё мацней і глыбей пачынае вывучаць родную песьню, больш сур'ёзна да яе падходзіць і больш старанна падрыхтоўвацца да працы над ёй. Мы маемо ўжо слухачоў у консэрваторыях, вучняў у музычных школах і выхаванцаў у розных пэдагогічных установах, якія створаць нам новыя кадры сьпявакоў, музыкантаў, рэгэнтаў і гарманізатараў нашае песьні.

У зьвязку з усім гэтым, перад беларускім грамадзтвам і актыўнымі дзеячамі Беларускага Адраджэньня, якія цікавяцца беларускай музыкай і песьняй, стаяць пяць вялікіх задач: 1) узмоцненае і сыстэматычнае зьбіраньне і запісваньне беларускіх народных мэлёдый, і словаў да іх, па ўсіх тых краінах і мясцовасьцях, дзе жывуць беларусы; 2) старраннае азнаямленьне з усімі раней запісанымі матар'яламі, як ужо надрукаванымі, так і рукапіснымі; 3) сыстэматычнае друкаваньне сабраных матар'ялаў, каб зрабіць іх даступнымі шырэйшаму колу музычных працаўнікоў; 4) музычная апрацоўка сабраных матар'ялаў і 5) друкаваньне новых зборнікаў беларускіх песьняў.

На вялікі жаль трэба адзначыць, што мы, беларусы ў Латвіі, яшчэ дужа далёка стаім ад выкананьня вышэйпамянёных пяці задач. Наша маладое і старэйшае настаўніцтва зусім яшчэ ня выкарыстала ўсе свае магчымасьці ў справе запісваньня беларускіх народных мэлёдый у Люцыншчыне, Дагдзеншчыне, Краслаўшчыне ды Ілукштаншчыне, а таксама не запісвае беларускіх народных мэлёдый, завезеных у Рыгу выхадцамі з беларускіх вёсак Латгаліі і Заходняе Беларусі. Мала працуюць нашы настаўнікі сьпеваў і над вывучэньнем ужо існуючага і надрукаванага беларускага песеннага матар'ялу. Дзе-хто з іх да гэтага часу толькі і ведае, што зборнікі Ул. Тэрраўскага і Е. Раманава ды „Школьны сьпеўнік" А. Грыневіча. Што-ж тычыцца трох апошніх задач, з ліку пяці вышэйўспамінаных, дык яны і зусім яшчэ ў Латвіі не закрануты.

Каб троху арыентаваць наша настаўніцтва і маладых нашых сьпявакоў ды рэгэнтаў у існуючых ужо беларускіх нотных зборніках і іх гісторыі, мы тутака зьмяшчаемо ў хронолёгічным парадку весткі, як аб першых беларускіх нотных зборніках, якія паклалі пачатак сучаснай беларускай музычнай літаратуры, так і аб галоўнейшых новых зборніках, што вышлі ў розных мясцох за апошнія гады. Аб тых зборніках, якія былі ў аўтара пад рукой, даюцца больш падрабязныя весткі з паказаньнем іхняга зьместу, аб іншых зборніках даюцца толькі агульныя данныя. З старых зборнікаў адмячаліся нават самыя дробныя, бо кожды такі зборнік, якім бы малым ён ня быў, меў вялікае значаньне для разьвіцьця справы зьбіраньня і запісваньня беларускіх песенных мэлёдый, а тым самым і для ўсяго нашага музычнага і адраджэнчага руху. Дужа хацелася аў-

тару даць біографічныя весткі аб кожным з зьбіральнікаў і гарманізатараў беларускае песьні, але гэтую справу прышлося пакуль-што адкласьці на далейшы час, каб сабраць больш грунтоўныя і падрабязныя матар'ялы.

**Зборнік Марыі Чарноускай.**

Першы зборнік беларускіх народных песьняў выдрукаваны быў 115 год таму назад Марыяй Чарноўскай у польскім часопісу „Dziennik Wileński", у томе VI за 1817 год, на стар. 396—408. Тутака М. Чарноўская зьмясьціла свой артыкул „Zabytki mitologii słowiańskiey w zwyczajach wieyskiego ludu na Białej Rusi dochowywane" і некалькі беларускіх песьняў з нотамі. Невялічкі артыкул гэты меў надзвычайна важнае значаньне для таго часу і некалькі разоў, як аб тым сьведчыць праф. Е. Карскі*), перадруковываўся як расейскімі так і польскімі вучонымі. У 1919 годзе ён быў у расейскім перакладзе зьмешчаны у „Вѣстник'у Европы" ч. 102 (52—56; 111—119), пад загалоўкам: „Остатки славянскаго баснословія въ Бѣлоруссіи"; затым праз 4 гады яго перадрукавалі у „Сѣверномъ Архивѣ", т. IV за 1822 г., балонкі 463—473, пад загалоўкам: „Эфологія или наука о правах и обыкновеніяхъ. Сочиненіе дѣвицы Черноцкой"; у 1830 годзе артыкул гэты перадрукаваны быў у кнізе Голэнбёўскага: „Lud polski, jego zwyczaje, zabobony", w Warszawie, 1830, на балонках 12—13 ды 268—269; нарэшці выняткі з гэтага-ж артыкулу надрукаваны былі акадэмікам Е. Карскім у ягонай працы: „Отчетъ о первомъ присужденіи премій П. Н. Батюшкова", што зьмешчана ў кнізе „Записки Императорской Академіи Наукъ по Историко-Филологическому Отдѣленію", т. IV, кн. 1, 1899. Тут, на балонках 3—7-й, зьмешчаны ўзятыя ад М. Чарноўскай апісаньні найбольш пашыраных на Беларусі сьвятаў так званага „гадавога кола" („Купальле", „Радаўніца" і „Русальнік") ды дзьве русальных песьні бяз нотаў („Мы вяночкі завілі" і „На Тройцу мы вянкі вілі"), а таксама перадрукаваны дзьве запісаныя ёю мэлёдыі: 1) купальская — „Купала на Івана, дзе Купала начавала?" і 2) сёмушная — „Русалачкі зямляначкі, на дуб лезьлі кару грызьлі"**). Якія яшчэ іншыя беларускія мэлёдыі былі сабраны і надрукаваны М. Чарноўскай — вестак няма. **К. Езавітаў.**

(Працяг будзе).

---

*) Профессоръ Е. Ф. Карскій — „Бѣлоруссы", книга I, „Введеніе къ изученію языка и народной словестности", Вильно, 1904, „Виленскій временникъ" Изданіе Виленскаго Генералъ-Губернаторскаго Управленія, стр. 205.

**) Том IV „Записакъ" з гэтаю працаю і мэлёдыямі нашы латвійскія сьпявакі і рэгэнты могуць знайсьці у Рыскай Мястовай Бібліатэцы на Ратушным пляцу.

**Эўропэйскі Акцыянэрны Хаўрус Пішучых Машын**
**Rīgā, L. Pils ielā 23, другі паверх будынку Біржавога Банку. Тэлефон—34634.**

**Першаклясовыя пішучыя машыны „OLIMPIA" з прыладамі. Спэцыяльная рамонтная майстэрня.**

Спэцыяльнасьць нашае фірмы машыны **„Mignon"** за 220 лат. даюць магчымасьць кождаму, бяз папярэдняга навучаньня, адразу пісаць на усіх мовах, у тым ліку і на беларускай мове.

Андрэй Упіт.

# ФРАКЕЕЦ КІЛОН.

Палонныя ляжалі доўгім шэрагам, зьвязаныя папары. Рукі і ногі былі ў іх скручаны разам на сьпіне высахшымі бычачымі рамянямі. Папары — відаць з тэй мэтай, каб торгаючыся ў сударагах і корчах яны павялічвалі-б адзін-аднаму пакуту. А магчыма дзеля таго, каб не рабілі спроб паадным выкаціцца з паласы сьвету, які ішоў ад вогнішча, і кінуцца ў прорву паміж скаламі. Але магчыма, гэткі спосаб прыдумаў прост які-колечы камандуючы афіцэр, у выбражэньні якога ўжо больш не аставалася ніякага іншага спосабу катаваньня.

У стаптаных, пыльных сандаліях, у касцы[1]), але бяз броні, толькі з мячом у руцэ, уздоўж шэрагу палонных паволі туды і назад хадзіў стары легіянэр.

Магчыма было-б падумаць, што ён ходзіць тутака дзеля ўласнае прыемнасьці, калі-б не яго разьмерана-важная хада і калі-б па лязу мяча не цягнуліся запёкшыся бурыя палосы крыві. Калі ён нагінаўся, каб падкінуць у вогнішча палена дроў, ягоныя рукі, нібы ў чырвоных рукавіцах, блішчэлі да самага лакця. У сівой барадзе таксама былі чырвоныя плямы, здавалася нават, што нешта капнула і ў вочы.

Бітва скончылася часоў шэсьць назад, яшчэ на змроку. Цяпер у пацёмках чуваць толькі выгукі вартаўнікоў наўкола пляцу з палоннымі. На сто крокаў ніжэй, на самым краю горнага шляху гучаць удары молатаў. Уздоўж шляху замала расьце дрэў, каб прыбіць шэсьць тысяч палонных нявольнікаў — дадаткова патрэбны яшчэ крыжы. Праз дзьве гадзіны, калі Марк Ліцыні Крас накіруецца з Капуаса ў Рым, — жывая алея павінна быць гатова.

Салдатам здавалася, што чакаць дужа доўга. Далей ўправа, дзе дарога вядзе ўгару, гарэла другое вогнішча. Там пры больш моцным агні, з цемры высока падымаўся крыж з прыцьвікаваным да яго чалавекам. Нядбайна прыбітая перакладзіна перакасілася, тулава прыцьвікаванага схілілася так, што падбародак немаль датыкаўся да кален яго. Калі на - момант прыціхалі ўдары сякераў, там згары былі чутны крыкі, быццам хрыплы вой недарэзанага ваўка. Тады легіянэр спыняўся, адкідаў сівую грыву назад і, закрываючы рукою вочы ад свайго вогнішча, рабіў спробы лепш разгледзіць.

Кілон і Гіпні ляжалі апошняй парай у чарадзе. Зузім неспадзявана яны апынуліся разам. Гіпні быў адным з тых першых адважных, каторыя разам са Спартакам вырваліся з турмы гладыятараў у Капуасе і вызвалілі іншых нявольнікаў. Ён прыймаў удзел ва ўсіх вайсковых падзеях паўстанцаў, тымчасам як Кілон пасьціў статак Лентула Бантуата. Толькі пасьля таго, калі Спартак са сваей дружынаю прарваўся скрозь акружэньне ў лясох Бруціі ды зноў падыходзіў да Рыму, ён кінуў свой статак і ўцёк да галійцаў Эномая, а потым далучыўся да палка свайго земляка Спартака. Толькі ўчора пасьля палудня, калі загінуў іхні атаман і легіёны Краса лавілі іх, як шалёных сабак па ўсяму прыгор'ю, ён раптам спаткаўся са старэйшым братам... Так яны разам папалі ў палон і цяпер ляжалі побач у канцы чарады на прамокшай зямлі і чака-

лі, калі іх пацягнуць да прыдарожнага дрэва, або на крыж, як таго там.

Сьпіны ў іх былі адна каля аднэй. Яны ляжалі на баку і кожны ўсімі фібрамі цела адчуваў самую малую дрыготку ў целе другога. Як гэта ня дзіўна, у адступленьні Кілон застаўся нават безпараненьняў. Яго даўгія жоўтыя валасы абкружылі шыю брата, ён адчуваў, як кроў Гіпнія з раны ў шыі мочыць іх і яны моцна прыліпаюць да яго шыі. Ён сьціснуў зубы, высахшыя губы патрэскаліся і гарэлі, як у агні.

Застагнаўшы, ён адчуў штуршок локцем брата ў рабро і пачуў гняўлівы шэпт:

„Ціха!.. ці я цябе задушу сваімі ўласнымі рукамі".

Кілон ня сьцяміў усей безгрунтоўнасьці гэтае пагрозы пры створаным становішчы. З павагі ды страху да старэйшага брата ён стараўся затрымаць нават дыханьне. Да гэтага часу ён думаў, што рукі брата несьвядома корчацца ў сударагах, але цяпер ён пачаў разумець, што той шавеліць імі з таямнічай мэтай і пляновасьцю. Яго ўласныя рукі быццам здубянелі і нічога не адчувалі. Але кожнае датырканьне да пляча калола нібы войстрым цьвіком. Усё часьцейшымі і больш балючымі рабіліся ўколы. Усё мацней сьціскаў ён зубы. Яму здавалася, што брат яго ўжо проста страціў розум.

Але тут ён раптоўна адчуў, што нешта адразу яго звольніла ад таго, другога. Ногі заставаліся шчыльна прыцягнутымі да ног брата, але верхняя частка тулава здавалася вольнай і лёгкай. Здавалася, адрываецца і ляціць лёгкай зграбнай дугой далёка ўніз па ўзгорку, праз дарогу, у вольную цёмную далячыню.

Ён нічога ня мог разгледзіць. Ляжачаму запылілі вочы сандаліі[2]) легіянэра і, як толькі рукі адыйшлі, першай справай было працерці вочы.

Удар у сьпіну спыніў і гэты рух.

На гэты раз ён не разслухаў шэпту брата. Але заўважыў, што Гіпні, пацягнуўшыся, нешта робіць рукой каля іх агульнага рамяня каля ног. Скрозь маладое цела Кілона прабег ток страху і дзіўнага прадчуваньня.

— Няўжо-ж?..

У той жа момант ён адчуў, што і ногі аслабаняюцца ад палючага болю путаў. Ён ледзь апамятаўся і стрымаў крык нечаканасьці. І нібыта здалёк пачуў шэпт брата:

„Ты можаш рухаць нагамі?"

У нагах Кілона калоў пякучы боль да самага калена, але рухаць імі ён мог.

„А рукамі?"

І рукі зусім адыйшлі.

Але тут яны прыліплі да зямлі, як уцякаючыя ад кошкі мышы, і стараліся нават затрымаць дыханьне. Легіянэр сьцяміў, што ён задужа захапіўся прыемным відовішчам і павярнуўся, каб праверыць сваіх палонных. Але пераканаўшыся, што ў шэрагу ўсё пастарому, зноў прайшоў да паглыбленьня ўзгорка і павярнуўся тварам да другога вогнішча.

Кілон без загаду зразумеў, што яму рабіць. Калі постаць Гіпнія як таўстая шэрая гадзіна, папаўзла міма яго ног, ён таксама

лежачы павярнуўся і папоўз за ім. Удары сэрца, як гонг, гучэлі ў вушах, шум ад яго казловай вопраткі на пакрытай пяском скале здаваўся яму голасным крыкам. Ад душэўнага ўзварушэньня ўсё яго цела пакрылася потам. Ен прыхіліў галаву да самае зямлі, і яму здавалася, што ён увесь схаваўся ў вялікім ценю свайго брата.

Дапоўзшы галавамі да паглыбленьня, у пяці кроках ад вартаўніка, яны заўважылі, што наўкола іх усё заліта чырвоным полымем. Вартаўнік падаўся наперад, відаць, як мускулы яго плеч сударжна трасуцца ад сьмеху. Вой падстрэленага загучэў яшчэ страшней. Але фракійцы думалі цяпер толькі аб тым, што цень, па якім яны паўзлі, зрабіўся цямнейшы.

Тады Кілон адразу схапіўся і спрытна, як малады тхарок, устаў на ногі. Але ён не пасьпеў за скокам Гіпнія. Той ужо быў там. Яго правая рука ззаду схапіла руку рымляніна з мячом, а левая, як сталёвы абруч, абвілася каля шыі, паволі адхіляючы ўсю постаць назад. Сівая грыва немаль дакранаецца да сьпіны. Вось бліпічаць чырвоныя вылупленыя вочы. Вось высунуўся язык. Вось увесь твар зрабіўся мядзяна-бурым.

Але змучаны смагай і голадам гладыятар спаткаўся з напрактыкаваным ваякам, былым цыркавым барцом, які яшчэ толькі дзьве гадзіны назад зьеў пражараную на верцялі бараньню шынку і выпіў пляшку віна. Вольная рука паднялася, сталёвай дугой абвіла шыю, упілася цэпкімі пазурамі ў скалмачаныя валасы нявольніка. І пакуль чатыры пальцы яго ўпіваліся туды ўсё глыбей, вялікі палец набліжаўся да страшнае раны на чэрапе ворага.

Гіпні дыхаў, як вол, якому прыцягваюць вяроўкаю галаву да нагі. Палова яго ўвагі ды сілы была скіравана на тое, каб ня выклікаць увагі бліжэйшых вартаўнікоў. Ламаючы рымляніна, ён і сам адхіліўся назад так далёка, што, здавалася, вось-вось паваліцца назад пад важкім целам ворага.

Меч, які заварушыўся ў руцэ легіянэра, вывеў Кілона з хвілёвага аслупяненьня. Адным спрытным рухам, ён выхапіў важную зброю. І тады, падняўшы абедзьвюма рукамі, увапхнуў збоку ад сьпіны, павольна, але адважна, вымераўшы вачыма належнае мейсца, націснуўшы з усей сілы.

Постаць Гіпнія выраўнялася. Рымлянін паваліўся каля яго ног. Момант трымаўся сідзячы, і здавалася, што ён робіць спробу трымацца рукамі за зямлю. Але потым ён схіліўся лобам да кален і так спыніўся, раскідаўшы па-бакох рукі, нібыта зламаныя крылы.

Гіпні выхапіў меч у брата і выпрастаўся ва ўвесь рост — як раз так, як калісьці ва фракійскім лесе каля забітага ляснога кабана, або ў Рымскім цырку каля цела пераможанага ворага. Але толькі на кароткую хвіліну бліскануля на яго твары радасьць выратаванага жыцьця. Вогнішча на ўзгорку палыхнула яшчэ вышэй. Вой прыцьвікаванага перамог трашчаньне пылаючых вогнішчаў і п'янае гарланьне легіянэраў. І Кілон павярнуўся туды, і вочы іх ободвух выказвалі невымоўны словамі жах.

**Андрэй Упіт.**

(Працяг будзе).

1) У шоламе. 2) Абутак, падобны да нашых пасталаў.

(Заўвага перакладчыка).



**Група, сфатаграфаваная падчас перагавораў беларускіх грамадзкіх дзеячоў з Латвіі з грам. К. Душэўскім у Коўне 30 чэрвеня 1931 году.** Сядзяць зьлева управа, у першым радзе: К. Душэўскі і К. Езавітаў; у другім радзе: М. Дзямідаў, гр-ка Душэўская і С. Сіцько; у трэцім радзе: П. Журкоўскі і В. Барысовіч. У выніку гэтых перамоваў К. Душэўскі і В. Барысовіч былі даўшы абяцаньне падтрымаць працу гр. С. Якавюка, А. Матача, К. Плескачэўскай і іншых ініцыятараў „Беларускага культурна-асьветнага Т-ва у Літве“. Абяцаньне сваё гэтыя два грамадзяніна зара‘ зламалі і заклалі сваё новае Т-ва „Беларускі Цэнтр“, у які уваходзяць галоўным чынам ліцьвіны, а сьвядомыя беларусы яго байкатуюць.

## Ці інжанэр-архітэктар К. Душэўскі хоча зрыву працы беларускае меньшасьці у Літве?

У №№ 1-ым, 2-ым і 3-ым нашага штомесячніка за мінулы 1932 год, а таксама і у брашуры нашай „Беларусы у Літве“, мы падрабязна спыняліся на разглядзе сучаснага стану беларускае меньшасьці у Літве, высьвятлялі прычыны яе малае арганізаванасьці, віталі арганізацыйныя крокі, зробленыя у 1931 і 1932 гадох, і перасьцерагалі ад магчымых памылак на будучыню. Яшчэ раней, падчас вучыцельскае экскурсыі у Коўню, улетку 1931 году, шмат сяброўскіх высілкаў паклалі мы на тое, каб заахвоціць пражываючае у Коўне беларускае грамадзтва распачаць пляновую культурна-асьветную працу сярод беларускае меньшасьці у Літве, якая да тэй пары не вялася. Асабліва многа высілкаў прышлося пакласьці на тое, каб паўплываць на гр. К. Душэўскага і ягонага супрацоўніка В. Барысовіча у тым сэнсе, што-б яны не перашкаджалі грамадзкай арганізацыі і працы новазакладаемых беларускіх культурна-асьветных арганізацый. Справа у тым, што абодвы гэтыя грамадзяне працавалі у міністэрстве замежных спраў Літвы, у якасьці нейкіх чыноўнікаў-рэфэрэнтаў па беларускіх справах, нешта пісалі у канцалярыі, але па-замежы канцалярскіх дакладаў праца іх не выходзіла і ніякага грамадзкага характару не насіла. Можна сьмела казаць, што гэткая праца больш патрэбна была двум-тром прожэктэрам з памянёнага міністэрства, чым беларускай меньшасьці і беларускаму грамадзтву у Літве, якія зусім нават не былі у курсе характару спраў гэтае канцаляршчыны. І ня толькі беларускае грамадзтва

ня было у курсе гэтае „працы“, але праца гэта нават шкодзіла беларускай меньшасьці у Літве, бо запраўдныя інтарэсы беларускага жыхарства сучаснае Літвы прост ігнараваліся: ня было ні беларускіх школ, ні культурна-асьветных арганізацый, ні якога-колечы беларускага Таварыства. Міністэрства замежных спраў больш клапацілася аб тым, каб выкарыстаць, праз сваіх двух платных чыноўнікаў, беларускае пытаньне і беларусаў у сваім змаганьні за Вільню, аб тым жа, каб падтрымаць і задаволіць запраўдныя інтэрасы беларускага грамадзтва і беларускае меньшасьці у Літве, і гутаркі ня было.

Вынікам такой „працы“ гр. гр. К. Душэўскага і В. Барысовіча ды падтрымоўваўшага іх міністэрства міжнарадовых спраў было тое, што за кошт расцярушанае беларускае меньшасьці у Літве узмацоўваліся расейцы і палякі.

Пад уплывамі беларускіх грамадзкіх дзеячоў з Латвіі, гр.гр. К. Душэўскі і В. Барысовіч улетку 1931 году далі абяцаньне не перашкаджаць арганізацыйнай працы беларускае меньшасьці у Літве. В. Барысовіч нават увашоў у склад сяброўініцыятараў, якія склалі, падпісалі і падалі на зацьверджаньне статут „Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва у Літве“. Такім чынам група чыноўнікаў нібыта зразумела, што аднэй пісаніны і сталага атрымоўваньня пэнсыі яшчэ мала для таго, каб лічыцца беларускім дзеячом, што патрэбна яшчэ і безграшовая грамадзкая праца, што патрэбна арганізацыя і абслугоўваньне масаў.

Увесь 1931 год, а таксама і большая частка мінулага 1932 году прайшлі у арганізацыйнай працы, аб якой мы своячасна падавалі інфармацыі і зара‘ паўторывацца ня будземо. Усё ішло добра і самаарганізацыя беларускае меньшасьці у Літве пасьпяхова прасоўвалася наперад. У пачатку 1933 году гэтая арганізацыйная праца закончылася склiканьнем Беларускага Кангрэсу у Літве, які перавыбраў новы склад Цантральнага Праўленьня „Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва у Літве“ і заклаў рэпрэзэнтацыйную палітычную арганізацыю беларускае меньшасьці — „Беларускі Нацыянальны Камітэт“.

Але вось, перад самым склiканьнем Беларускага Кангрэсу, у Коўне адбыліся дужа сумныя зьявы. Гр. К. Душэўскі (ці па сваей ініцыятыве, ці кімсьці падштурхіваны — няма ведама!) задумаў ізноў захапіць у свае рукі „манаполію на беларускую рэпрэзэнтацыю у Літве“, і з гэтай мэтай, у сяброўстве з вядомым „ліцьвіном“ праф. Іваноўскім, склікаў сход, на якім меўся закласьці новую беларускую арганізацыю: „Беларускі Цэнтр“.

Беларускае грамадзтва паставілася да гэтае новае спробы разьбіваньня беларускіх сіл дужа адмоўна. На ініцыятыўным сходзе, на які зьявілася шмат народу, гр. К. Душэўскаму зрабілі моцнае папярэджаньне, каб ён ня йшоў супроць беларускага грамадзтва, а справу арганізацыі „цэнтру“ адхілілі.

Есьць, аднак, доказы таго, што гр. К. Душэўскі усё-ж-ткі свае задеі ня кідае і нешта начынае ужо рабіць паміма беларускага грамадзтва. Беларускія арганізацыі захоўваюць спакой і вядуць далей сваю працу. У гэтай іхняй працы мы жадаемо ім далейшых посьпехаў. Усю-ж адказнасьць за магчымыя перашкоды у працы, а таксама і за магчымы зрыў беларускае меньшасьцёвае справы у Літве,—беларускае грамадзтва ускладае зара‘ на К. Душэўскага.

**К. Езавітаў.**

Як удзельнікі гутарак і сьведкі абяцаньняў гр. гр. К. Душэўскага і В. Барысовіча, дадзеных імі улетку 1931 году, цалком далучаемося да стацьці і развагаў гр. К. Езавітава. **М. Дзямідаў і С. Сіцько.**

## Беларускае жыцьцё у Літве.

**Мэморандум Літоўскаму Ураду** пададзены Беларускім Культурна-Асьветным Т-вам з дамаганьнем аб уключэньні у сьмету міністэрства Асьветы Літвы асыгнаваньняў: на арганізацыю беларускіх школ, на падтрымку беларускага раз‘езднага тэатру, на утрыманьне Беларускага Народнага Унівэрсытэту, на беларускі дзіцячы сад у Коўне і закладзіны Беларускае вучыцельскае сэмінарыі. Усе гэтыя справядлівыя вымаганьні Літоўскі Урад павінен задаволіць, калі ён запраўды хоча ад слоў перайсьці да справы і дапамагчы, нарэшці, беларускай меньшасьці у яе культурнай працы. Стары ненармальны стан рэчаў, калі беларускае жыхарства нічога не атрымоўвала на сваю культурна-асьветную працу, павінен быць спынены. Выстаўлена у мэморандуме яшчэ патрабаваньне і аб тым, каб цэлы шэраг беларускіх сялян быў зацьверджаны нарэшці у сваіх правох на зямлю, купленую яшчэ да вайны праз Зямельны Банк, а таксама, каб шэраг беларускіх уцекачоў з Заходняй Беларусі атрымаў бы, нарэшці, літоўскія пашпарты.

Нам здаецца, што мэморандум павінен

быў бы зачапіць яшчэ пытаньне і аб тым, каб у сучасную Літву былі шырока адчынены дзьверы тым беларускім дзеячом і культурным працаўнікам, якія паходзяць з Заходняе Беларусі і з сучаснай Літвы, але, па незалежных ад іх прычынах, параскіданы зара' па усей Эўропе і нават апынуліся у Амэрыцы. Гэтыя сілы павінны быць сабраны у Літве, каб вясьці тутака беларускую культурную працу.

**Статут „Хаўруса Беларусаў Літоўскае Дзяржавы“** зацьверджаны 27 сьнежня 1932 году у Коўне. Ініцыятарамі Хаўруса зьяўляюцца грамадзяне: Сымон Якавюк, Караліна Плескачэўская, Сяргей Дзядзевіч, Аўген Гайдукевіч і Ігнат Ясінскі. Арганізацыяй гэтага Хаўрусу кладзецца пачатак палітычнага аб'яднаньня беларускае меньшасьці у Літве, бо дагэтуль беларусы вялі толькі культурна-асьветную працу.

**Беларускі спэктакль у м. Багаславішкі** Вількамірскага павету адбыўся 1 студзеня. Драматычная Дружына Бразэльскага Аддзелу „Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва у Літве“ выяжджала сюды і паставіла 2 п'есы Л. Родзевіча: „Зьбянтэжаны Саўка“ і „Пасланец“. Пастаноўкі мелі вялікі посьпех як сярод беларускага, так і сярод літоўскага жыхарства.

**Беларускі спэктакль у м. Шырвінтах** Вількамірскага павету быў зладжаны 22 студзеня Бразэльскай Драматычнай Дружынай, якая паўтарыла тутака свае пастаноўкі. з якімі выяжджала у Багаславішкі. Спэктакль прайшоў з вялікім посьпехам.

**Агульны Сход „Аб'яднаньня студэнтаў-беларусаў Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага“** адбыўся 12 лютага для выбараў сталага прэзыдыуму і разгляду бягучых спраў. Падцьверджаны поўнамоцтвы ініцыятыўнага Праўленьня, склад якога мы падавалі ужо у папярэднім нумары.

**Беларускі Дзіцячы Сад у Коўне** пры Беларускім Культурна-Асьветным Т-ве распачаў сваю працу 12 лютага, а 19 лютага адбылося урачыстае адчыненьне яго. Дзеці выступілі з прыгожа-апрацаванай праграмай, у якую уваходзілі: балет „Жыцьцё матылёчка“, беларускі народны танец — „Лявоніха“ і дэклямацыя. Пастаноўка, дэкарацыі і касьцюмы распрацаваны былі гр. М. Чэркас, словы для балетнай п'есы напісала гр. Анна Матач, а музыку для балета напісаў Антон Матач.

**Статут „Беларускага Цэнтру у Літве“** зацьверджаны 14 лютага начальнікам павету і гораду Коўні. Ініцыятарамі гэтае арганізацыі зьяўляюцца: К. Дуж-Душэўскі, проф. Г. Івinduаноўскі (ліцьвін), жонка проф. Іваноўскага, В. Барысовіч і І. Сіротка. У статуце Т-ва гаворыцца, што яно „хоча стварыць цэнтр для аб'яднаньня і коордынацыі працы як паасобных беларускіх дзеячоў, так і усіх беларускіх арганізацый у Коўне і ва усей Літве“. Як бачым, ня шляхам арганізацыйнай паступовай працы з ь н і з у, а шляхам з а х о п л і в а н ь н я з г а р ы ужо існуючых беларускіх арганізацый, паўстаўшых і працаваўшых раней і без дапамогі „Цэнтру“, хоча К. Душэўскі „з а х а п і ц ь у л а д у“ над беларускім меньшасьцёвым рухам.

**Першая спроба выступленьня новастворанага „Беларускага Цэнтру“** зроблена была гр. К. Душэўскім 19 лютага. Беларускае грамадзтва аднеслося адмоўна да спробы Душэўскага і Іваноўскага перад самым Беларускім Кангрэсам у Літве зрабіць спробу захапіць у свае рукі правы і функцыі гэтага Кангрэсу. На сход зьявілася каля 50 чалавек, з якіх 40 выказалася супроць К. Душэўскага і Іваноўскага. Ініцыятары змушаны былі зачыніць свой „урачысты“ сход, не дабіўшыся ні вызнаньня сваей працы, ні выбараў сталага Праўленьня „Цэнтру“. Аб усей гэтай новай „акцыі“ гр. Душэўскага зьмяшчаемо асобны артыкул.

**Першы Беларускі меньшасьцёвы Кангрэс** адбыўся, як і было прызначана, 26 лютага. Кангрэс стварыў Б е л а р у с к і Н а ц ы я н а л ь н ы К а м і т э т у Л і т в е і абраў у прэзыдыум яго: М. Чэркас, А. Матача, С. Якавюка, К. Плескачэўскую і В. Боева, а кандыдатамі да іх: А. Раманейку, А. Езайціса і М. Саковіча. Затым адбыліся перавыбары Цэнтральнага Праўленьня Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва, у склад якога абраны: старшынёй — С. Якавюк, намесьнікам старшыні—А. Матач, сакратаром — С. Дземідовіч, скарбнікам—К. Плескачэўкая і сябром—І. Радзюк. Больш падрабязныя весткі аб Кангрэсе зьмесьцім у асобным артыкуле. **К. Ез.**

## Адчыненьне Беларускага Народнага Унівэрсытэту ў Літве.

Захадамі і працай Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва у Літве 22 студзеня у Коўне адчыніўся Беларускі Народны Унівэрсытэт, які часова зьмяшчаецца у памешканьні клюбу Т-ва „Беларуская Хатка“. Акт адчыненьня пачаўся а 17 г. прамоваю старшыні Т-ва гр. Якавюка, у якой ён у кароткіх рысах абмаляваў гісторыю падгатаваўчай працы па арганізацыі першай беларускай прасьветнай установы у Літве. Наступны прамоўца, кіраўнік Унівэрсытэту, гр. Матач, зрабіў даклад аб плянах працы на будучыню. З даклада гр. Матача відаць, што праца

Унівэрсытэту будзе вясьціся галоўным чынам на вёсцы. Прадбачаецца у кожным беларускім раёну працаваць два тыдні, зрабіць тэатральную пастаноўку і перасунуцца далей. Што датычыцца навучаньня, дык яно будзе вясьціся прыблізна па праграмам школ для дарослых, прычым увага будзе зьвернута на прадметы беларусазнаўства і сельска-гаспадарчыя.

Далей прамаўляў бургомістр м. Коўна, інжэнэр Граўрочнас і праф. Біржышка, якія у сваіх прамовах абяцалі з свайго боку падтрымаць Унівэрсытэт і спадзяваліся, што беларуская прасьветная праца у Літве пойдзе на карысьць ліцьвіноў і беларусаў, а таксама узмацуе добрыя адносіны між дзьвюмя гістарычна зьвязанымі народамі.

За імі прамаўлялі прыехаўшыя з Рыгі беларусы: ад Т-ва „Беларуская Хата" у Латвіі — гр. Дзямідаў, ад Рыскай мястовай беларускай школы для дарослых кіраўнік яе — гр. Кастылюк, ад Т-ва „Беларускага Тэатру" у Латвіі — гр. Гусарэвіч. Ад Расейскага дэмократычнага аб'еднаньня у Літве прывітаў Унівэрсытэт гр. Вішнеўскі, ад беларускага студэнцтва у Літве — гр. Зэйгліш, ад беларусаў-вайскоўцаў — палк. Усьпенскі.

Апрача пэрсанальных прывітаньняў былі атрыманы тэлеграмы: ад грам. Вяршыніна, гр. Захаркі, ад рэдактара „Беларускае Школы у Латвіі" гр. Езавітава, гр. Пігулеўскага, гр. Сахарава, ад Т-ва Беларускае Моладзі у Латвіі і іншых.

Пасьля афіцыйнае часткі акту гр. К. Плескачэўскай і гр. Гайдукевічам былі прадэклямаваны вершы, а гр. Матачом і іншымі—прасьпявана некалькі беларускіх і літоўскіх сьпеваў.

**Ул. Гусарэвіч.**

## З жыцьця Беларускае Моладзі у Латвіі.

**Кузьмінскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** 5 сьнежня 1932 году склікаў агульны сход сяброў, на якім было абрана новае Праўленьне і Рэвізыйная Камісія. У склад нова-абранага Праўленьня уваходзяць: старшыня — Пятро Азерскі, сэкрэтар—Франціш Лук'янскі і скарбнік —М. Трыбіс. У Рэвізыйную Камісію уваходзяць: М. Трыбіс, І. Каранеўскі і Я. Азерскі.

**Макняўскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** зрабіў перавыбары Праўленьня і Рэвізыйнае Камісіі 9 кастрычніка 1932 году. Склад новага Праўленьня гэткі: старшыня — Ян Гарадзецкі, сэкрэтар — Людвік Юркевіч, скарбнік—Ян Юркевіч. Склад Рэвізыйнае Камісіі: Мечыслаў Юркевіч, Ян Піваваронак і Антось Вятэр.

**Прыдруйскі Аддзел Т-ва Беларускае Моладзі** даканаў перавыбары старога Праўленьня 4 лютага 1933 года. Новае Праўленьне складаецца: з старшыні — Янкі Бартуля, намесьніка старшыні — Алеся Багдановіча, скарбніка — Т. Шайтара і сябры — П. Караткевіча. Рэвізыйная-ж Камісія складаецца з: Язэпа Кукеля, Яз. Вішнеўскага і В. Багдановіча.

**Новы Бельскі Аддзел у Дзьвіншчыне.** Цэнтральнае Праўленьне на паседжаньні 15 студзеня г. г. зацьвердзіла Бельскі Аддзел Прыдруйскай гміны, з часовым Праўленьнем у гэткім складзе: старшыня—Я. Ігнатовіч, намесьнік старшыні — Д. Зорын, сэкрэтар—П. Ловін, намесьнік Р. Урбановіч. У Рэвізыйную Камісію уваходзяць: А. Бартуль, У. Оруб і В. Бартуль.

**Агульны Сход Пырдаўскага Аддзелу Т-ва Беларускае Моладзі** адбыўся 2 студзеня 1933 г., на якім выступіў з дакладам старшыня Цэнтральнага Праўленьня Каз. Мяжэцкі аб працы Т-ва Моладзі і яе заданьнях. Пасьля дакладу адбыліся выбары новага Праўленьня. Абраны у склад Праўленьня: старшыня — Яз. Мяжэцкі, сэкрэтар — К. Зэйгліш, скарбнік — Ул. Мяжэцкі. У Рэвізыйную Камісію: Ан. Мяжэцкі, Я. Мяжэцкі і Ян Мяжэцкі. Пастанавілі у хутчэйшым часе наладзіць спэктакль-вечарыну. Да пастаноўкі рыхтуюць „На рэвізыі" і „Заручаны Паўлінкі".

**Агульны Сход Пасінскага Аддзелу** адбыўся 3 студзеня 1933 г. Старшыня Цэнтральнага Праўленьня Каз. Мяжэцкі зрабіў даклад аб дзейнасьці Цэнтральнага Праўленьня і аб заданьнях Т-ва Моладзі. Прычым адбыліся перавыбары. У склад Праўленьня увайшлі: старшыня — Ст. Мяжэцкі, сэк. — Эд. Мяжэцкі і скарбнік — П. Пургель. У склад Рэвізыйнае Камісіі: У. Трафімовіч, У. Мяжэцкі і Э. Мяжэцкі. Сход ухваліў адчыніць бібліатэку-чытальню у Пасіні.

**Агульны Сход Шушкоўскага Аддзелу Т-ва Моладзі** адбыўся 4 студзеня 1933 году. Даклад зрабіў старшыня Цэнтральнага Праўленьня К. Мяжэцкі. Адначасна былі зроблены перавыбары. У склад Праўленьня увайшлі: старшыня— Ігнась Кароткі, сэкрэтар — К. Масеенак, скарбнік — Тарасёнак і сябры: А. Марчонак і А. Лейтан. Рэвізыйную Камісію склалі: М. Марчонак, П. Грэйдан і М. Казімеронак. Сход прайшоў з зацікаўленьнем і закончыўся сьпеваньнем беларускіх песьняў і скокамі лявоніхі.

**Зілупскі Аддзел Т-ва Моладзі** 8 студзеня 1933 году зладзіў вечарыну, якая прайшла з вялікім посьпехам.



БІБЛІЯ... БЕЛАРУСІ

**Традыцыйная спэктакль - вечарына Т-ва Беларускае Моладзі у Латвії** зладжана была 11 лютага 1933 году Цэнтральным Праўленьнем Т-ва у Рызе. Сіламі вучняў беларускай вячэрняй дадатковай школы на Чырвонай Дзьвіне і сіламі Рыскай беларускай моладзі была пастаўлена п'еса Янкі Купалы „Паўлінка“ у 2-х дзеях. Маладыя артысты, некаторыя з іх дэбютавалі у першыню, выканалі свае ролі з посьпехам, удала перадаючы тыпізацыю беларускага сялянства, інтэлігэнцыі і шляхты, зарысованай аўтарам п'есы. Праўда, у некаторых кулявіў акцэнт, але гэта згладзілася добрай гульнёй і настроям артыстаў, пакідаючы у гледачоў перапоўненай залі добрае уражаньне. Закончылася вечарына скокамі а 4-й гадзіне раніцой. Агульны даход з вечарыны — 235 лат. 96 сант, а выдаткаў было на 224 латы 29 сант.

**Сяброўская гарбата Т-ва**, зладжаная Цэнтральным Праўленьнем, адбылася 26 лютага 1933 г., на якой былі прачытаны даклады сябрамі Цэнтральнага Праўленьня Фр. Клагішам і Яз. Клагішам. Закончыліся даклады дыскусьяй прысутных сяброў і гасьцей. Пасьля дакладаў госьці і сябры абмяняліся гутаркамі за гарбатай, перапыняючы іх сьпевамі беларускіх песьняў. Закончылі гарбату скокамі лявоніхі і беларускімі гульнямі. Адначасна была зроблена агульная фатаграфія прысутных.

**Да усіх новаабраных Праўленьняў і Аддзелаў Т-ва Моладзі.** Праўленьне заўсёды павінна быць тым актывам, які кіруе і дае ініцыятыву у арганізацыі, зварочвае увагу і дзейнасьць сяброў у адпаведным кірунку, надаючы агульны тон працы і яе узросту. Вось-жа заданьнем усіх новаабраных Праўленьняў і зьяўляецца ажывіць працу і дзейнасьць сяброў, узмацніць сьвядомасьць нашай моладзі для барацьбы за эканамічны і культурны дабрабыт нашага народу. Аб гэтым мы павінны самі рупіцца і гэта залежыць у большай меры ад нас саміх, нашай сьвядомасьці і актыўнасьці. Гэтага можна дасягнуць толькі працай, працай і бязупыннай, упорчывай і стойкай. Дык узмацняймо наш актыў!

**Цэнтральнае Праўленьне.**

## 3-я вечарына ў Пустынскім Аддзеле Т-ва Беларускае Моладзі.

Пустынскім Аддзелам Т-ва Беларускае Моладзі 29 студзеня была зладжана вечарына, на якой былі адыграны дзьве камэдыі: „Боты“ і „Модны Шляхцюк“. Камэдыі адыгралі Енінскія артысты: Ігнат Ігнатовіч, Вікторыя Ігнатовіч, Лянард Ігнатовіч, Зося Ігнатовіч, Баляслаў Ігнатовіч, Люкада Ігнатовіч, Данат Енін, Юлюсь Енін, Францішка Еніна, Паўліна Еніна і Лянард Люцік. Усе артысты выканалі свае ролі надта добра і публіка была дужа задаволена. Прысутных было болей за 200 асоб. Чыстага прыбытку ад гэтай вечарыны засталося 60 латаў. Надта добра прадэклямаваў Ігн. Ігнатовіч: „Выў у чысцы“. Вельмі усім спадабалася з дывэртысмэнту — „Таўку кісель“.

Прыемна, што Пустынскі Аддзел старанна працуе і у гэтым годзе зладзіў ужо тры вечарыны. Жадаемо і надалей бачыць такую працу. **Прысутны.**

## Пастаноўка „Раскіданага Гнязда“ у Шушкове.

Сябры Шушкоўскага Аддзелу „Т-ва Беларускае Моладзі у Латвії“ адзначылі 50-я угодкі нашага вялікага поэты Янкі Купалы пастаноўкаю у адным з глухіх куткоў Люцыншчыны ягонае п'есы „Раскіданае Гняздо. Спэктакль адбыўся 27 сьнежня у памешканьні Шушкоўскае беларускае школы. Стаўлена было тры акты. Аб гэтай пастаноўцы, нажаль, мы атрымалі дужа кароткія весткі і ведаем толькі тое, што першая у Латвіі спроба паставіць па вясковай сцэне гэтую цікавую драму, прайшла дужа добра. Народу было паўнюсенькая заля, прыбытку асталася — 45 лат. Ролі былі падзелены гэткім чынам: Жабрак — Пятро Грэйдан, бацька—Кізімер Масеенак, маці — Аляксандрына Марчонак, Сымон—Мадэст Марчонак, Зоська — Яніна Марчонак. Данілка — Банэд Масеенак, Паніч—Язэп Юрчонак, дзеці—Вікторыя Жыбёнка і Пятро Юнчонак, незнаёмы — Язэп Юрчонак. Усе артысты былі на сваіх мяйсцох, але асабліва добра ролю Сымона правёў М. Марчонак, добра іграў і П. Грэйдан.

Зара' Шушкоўская драматычная дружына, пад кіраўніцтвам вуч. А. Лейтана, рыхтуецца да пастаноўкі п'есы Дуніна-Марцынкевіча — „Пінская Шляхта“ і п'есы Л. Радзевіча — „Зьбянтэжаны Саўка“. Наагул трэба адзначыць, што Шушкоўская беларуская моладзь і яе Драматычная дружына разьвіваюць сваю працу дужа добра і паважна. Так ужо у 1929 годзе мы мелі магчымасьць бачыць у Шушкове пастаноўку п'есы Ул. Галубка „Апошняе Спатканьне“, адыграную дужа добра. Шчыра вітаемо працу шушкоўцаў і жадаемо ім далейшых посьпехаў!

**Тэатрал.**

3и/970118(050)

B000000002362747

## Хроніка беларускага жыць[illegible]

**Беларускай песьняй пачынаюць цікавіцца расейцы.** У канцэртвую праграму мужчынскага ансамблю расейскага Т-ва сьпявакоў „Баян“, які 26 студзеня у Латвійскай Консэрваторыі ладзіў свой канцэрт, упершыню у Рызе былі уключаны дзьве беларускія песьні, гарманізаваныя А. Турэнкавым і М. Грыўскім. Канцэрт прашоў з вялікім посьпехам. Гарманізаваную М. Грыўскім беларускую песьню „Хутчэй“ ансамблю прышлося, па жаданьню публікі, паўторываць. На канцэрце было шмат беларусаў, якія дужа былі задаволены і выкананьнем беларускіх песен і мовай іх. Гэтае пачынаньне „Баяна“ можна толькі прывітаць.

**Беларускі Народны Тэатр у Рызе** ладзіў 19 лютага чарговую сваю пастаноўку у памешканьні жыдоўскага работніцкага тэатру на Спас-Царк. вуліцы. Ставілася п'еса „Ружовае павуціньне“ (пераклад з украінскага). На гэты раз трупа абыйшлася бяз рэжысора - чужака, і пастаноўка ад гэтага зусім не прайграла. Усе артысты былі на сваіх мяйсцох і гралі дужа добра. П'есу варта было-б паўтарыць у Мільграбене і Торэнзбэргу. Хаця з боку ідэёвага п'еса вялікага кошту ня мае, але напісана вясёла і у зале увесь час стаяў рогат.

**Вечарына у 1-й беларускай аснаўной школе у Рызе** адбылася 4 лютага. Выступаў беларускі хор Тэатральнага Т-ва пад кіраўніцтвам вучыцеля Я. Каялы і пастаўлены быў Беларускім Народным Тэатрам „дывэртысмэнт“.

**С. П. Сахараў атрымаў пэнсію.** Пастановай Рады Міністраў былому дырэктару Дзьвінскае Беларускае гімназіі, С. П. Сахараву, прысуджана нарэшці пэнсыя. С. П. абаснаваўся зара' на сталае жыцьцё у Рызе, дзе прыймае удзел у беларускай грамадзкай працы і увайшоў у склад Рэдакцыйнае Калегіі нашага штомесячніка.

**Падручнік геаграфіі на беларускай мове** для беларускіх школ у Латвіі выдае Міністэрства Асьветы. Пераклад з латыскае мовы зрабіў беларускі поэта — „першакрокавец“ П. Массальскі. Перакладзены падручнік гр. Эд Томаса і Ю. Новасёлава лічыцца самым лепшым падручнікам геаграфіі у Латвіі. Першыя тры лісты з багатымі ілюстрацыямі ужо вышлі з друку. Гэтае пачынаньне Міністэрства Асьветы у справе друкаваньня беларускіх падручнікаў можна толькі прывітаць. Дужа было-б пажадана, каб на гэтым першым выданьні справа не спынілася і каб у хутчэйшым часе былі надрукаваны [illegible] бо зара' пас[illegible] школах Латві[illegible] беларускія шк[illegible] 1 жніўня 1934 году будуць пастаўлены у дужа цяжкое становішча.

**Дзіцячы спэктакль і вечарына 2-й Рыскай беларускай школы** адбыліся 25 лютага у зале школы на Сымонаўскай вуліцы 14-16. У праграме было: казка— „Дзіўны лапаць“, у 1 абразе, сцэнізаваная Знамяроўскім і выкананая вучнямі школы (пастушок—К. Драздовіч, злодзей Шымановіч — Ул. Савіцкі, злодзей Галяновіч — В. Юшкевіч); балетныя скокі вучняў — „Кітайскі танец - жарт“, „Швэдзкі танец“ і „Цэбагор-угорскі“; сьпевы вучнёўскага хору і дэклямацыя вучняў. Вечарына была зачыненая — толькі для бацькоў, вучняў і іхняе радні па запросінах. Прайшла вечарына па-дзіва ладна: вучні добра сьпявалі, гралі, танцавалі і дэклямавалі, панаваў сямейны дужа сымпатычны настрой. Гэткіх-бы вечарынаў паболей для нашае школьнае моладзі.

**Традыцыйная гадавая вечарына Дзьвінскае Беларускае Дзяржаўнае гімназіі** адбылася 26 лютага у зале гімназіі на Варшаўскай вуліцы 16. У праграму уваходзілі: дзьве п'есы, адна на латыскай мове — „Ансыс Аўнс“ Яна Судрабіня, трагічны абразок у 1-й дзеі, пад рэжысурай вуч. Г. Юрэвіча; другая на беларускай мове — „Птушка Шчасьця“ камэдыя у 3 дзеях Ф. Аляхновіча, пад рэжысурай вуч. У. Відаўскага; затым адбыўся балет — „Вальс“, танцавалі вучаніцы гімназіі, музыка Брамса, пад рэжысурай вуч-кі В. Краўзэ; апошнім у гімназіі выступаў гімназіяльны хор пад кіраўніцтвам вуч. Я. Катоўскага, які выканаў шэраг беларускіх песьняў. Публікі было шмат. Вечарына прайшла з посьпехам і добрымі матар'яльнымі вынікамі.

**Агульны Сход Дзьвінскага Аддзелу „Т-ва Беларускага Тэатру у Латвіі“** адбудзецца 7 траўня а 3-й гадзіне дня у памешканьні Дзьвінскае беларускае аснаўное школы (Ковенская вуліца 98). Парадак дня: 1) выбары прэзыдыуму сходу; 2) даклад старшыні Праўленьня аб працы Аддзелу; 3) справаздача скарбніка; 4) даклад Рэвізыйнае Камісіі; 5) выбары новага Праўленьня; 6) выбары Рэвізыйнае Камісіі; 7) бягучыя справы. Усіх сяброў запрашаюць абавязкова быць на сходзе.

**Праўленьне Аддзелу.**

Адказны Рэдактар — **К. Езавітаў**. Выдавец — **Беларускае Выдавецтва**

Друкарня Г. Іге, Рыга, Стары Горад, Vecpilsētā, 8. Тэлефон 34212.